№ 2 Чацьверг, 7 красавіка 1921. Год I.

# МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ

ПЭРЫЁДЫЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня, Вострабрамская, 9 | Цана асобнага нумэра 20 мк.



# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ, АРГАНІЗУЙМОСЯ!

## Да літоўскае моладзі.

Літоўская моладзь! Мы, беларуская моладзь, пачынаем вольным, але станоўчым крокам пасувацца напарад у справе нашага нацыянальнага адраджэньня. Ужо магутна і шырока прабіваецца сярод нас любоў да ўсяго роднага, а перад усім да роднага краю, да свайго сярмяжнага народу. Наша праца набірае ў гэтым кірунку, што раз большага імпэту і захоплівае што-раз новыя, шырэйшыя кругі. Пастаўленая намі сабе мэта, будзіць свой народ, а найперш моладзь, сяганьня ўжо дае багатыя рэзультаты. Гэта дае нам паруку, што як ні цярністы наш шлях, наш лёс, — мы, моладзь, раней ці пазьней, будзем ягонымі панамі.

Брацьця, Літоўская моладзь! Кладучы фундамэнт пад будыніну нашае будучыні, мы ня можамо ня лічыцца з нашаю прошласьцю. Наша-ж прошласьць ёсьць прошласьцю і вашай. І сьмела скажам, што ваша будучыня ёсьць будучыняй нашай. Дык клічамо і Вас да супольнай працы. Слаўна і дружна жылі нашы даўныя продкі і гэта было сэкрэтам іх адпорнасьці перад усякімі галеньнямі са старапы. І імі, як і намі, памяталі рожныя ўнешнія няшчасьці, рожныя цярпеньні, але ўсё гэта канчалася трыўмфам нашых продкаў, бо яны належна цанілі свой саюз, сваю прыязьнь. Гэта апошняе было сэкрэтам іх пострату для суседзяў і шчасьлівага пажыцьця для самых саюзьнікаў.

Моладзь! Калі і мы хочам будаваць сваю будучыню такою-ж сьветлай, шчасьлівай, то павінны трымацца тыхсамых прынцыпаў, што і нашы далёкія прадзеды.

Прыязьнь і саюз хай зацьвітуць між намі, а ня страшны нам будуць буры, што равуць і пеняцца кругом нас. Усё няправае зломім, усё скрышам, бо згодная праца граніц магчымасьці ня знае. Здабудзем усё, абы толька былі мы на праўдзівай дарозе. Літоўская моладзь! Мэта наша адна і шляхі нашы да яе, мусяць схадзіцца ў конечным сваім пункце... Дык успамагаймо-ж адзін другога ў гэтай падарожы, а будзьмо пэўнымі, што мэты свае дабʼемся. Вы, асабліва, браты нашы, ліцьвіны, што ў большасьці сваёй перайшлі ўжо тыя церні, па каторых мы ўсьцяж яшчэ ранімся духова, а яшчэ больш матэрыяльна,—успамажэце нас у чорную для нас яшчэ гадзіну. Пакажэце нам тыя шляхі, каторымі Вы пераходзілі сустраканыя 'перапоны,—а за ўсё гэта і мы падзелімося з Вамі сваімі здабыткамі, што бязумоўна завяжа між намі запраўдныя братэрскія адносіны. Хай-жа ўзаемна пазнаемся! Хай зьдзейсьнім нашы лятуценьні аб супольнай брацкай працы, дзеля агульнага дабра свае бацькаўшчыны, свайго народу! Хай жыве між намі брацкі хаўрус! Хай жыве хаўрус літоўска-беларускай моладзі!

**Ж.**

**БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ, АРГАНІЗУЙМОСЯ!**

## ПАДЗЯКА.

Рэдакцыя „Маладога Жыцьця“ шле сваю шчырую падзяку ўсім працаўнікам друкарні кооп. т-ва „Друк“, за іхнае грамадзкае адчуцьцё патрэбаў гуртуючайся беларускай моладзі, а перад усім яе матэрыяльных нястачаў. Гонар Вам, Грамадзяне, і пашана за найпершае адчуцьцё грамадзкасьці перад будзячымся да творчай працы маладым пакаленьнем!

Гонар Вам і падзяка!

Рэдакцыя.

---

залежачае, каб складаныя народам ахвяры прынясьлі яму жаданы плод.

Вазьмемо сабе за сьвяты абавязак прыгатаваць народ да пераняцьця вякамі чаканае свабоды. Няхай ніводнага з нас ня спляміць абрыдлае клеймо кар'ерызму, пры хутка наступаючым выбары дарог служэньня свайму народу. Памятаймо на тыя пытаньні, якія трасуць нашым народам цяпер і будуць трасьці ў прышласьці і ўсецэла пасьвяцімося дзеля конкрэтнага іх разьвязаньня. Памятаймо, што маладая школа беларуская, гэта адзінае бадай срэдства зліквідаваньня народнае цемры,—яна на вельмі яшчэ зыбкім фундамэнце і патрабуе пэўнае падпоры. Мова народу, каторую ворагі ягоныя праз зьдзек «хамскаю» клікаюць, патрабуе вялікай яшчэ рэформы, каб ёю к о ж н ы без запынак мог выражаць свае думкі і настроі.

Народная гаспадарка, сваім спосабам, сягае часоў амаль з прад трох яшчэ вякоў. Скарбы народу, як духовыя, так і матэрыяльныя, або зусім яму не знаныя, або вельмі і вельмі недацаняныя... І так скрозь і побач...

Беларусы-матурысты! Бацькаўшчына наша ў руінах! Нашым абавязкам ісьці насустрэчу ўсім яе ад нас вымаганьням! Ніхто з нас ня мае права адмовіцца пасьвяціць свае здольнасьці, ў тым ці іншым кірунку, на карысьць свае бацькаўшчыны. Дык в ы б і р а й м о - ж сабе ш л я х і, што проста і безпасрэдна вядуць н а с л у ж э н ь н е свайму народу, сваёй б а ц ь к а ў ш ч ы н е і ніхто з нас ня сьмей выбіраць пуціну абходную. Супольнымі сіламі, рашуча прыступаймо да збожнае працы, дзеля адраджэньня свайго народу. Будзьмо заўраньня прыгатаванымі на ўсякія магчымыя непаваджэньні, але моцна вермо ў сілы агульнае волі, а так працуючы, будзьмо пэўнымі спаўненьня сваіх абавязкаў і дапяцьця свае мэты — адраджэньня бацькаўшчыны Б е л а р у с і.

---

## Да брата у нядолі.

Аб чым зажурыўся так цяжка, мой брацэ,
Аб чым так павесіў галоўку,
Ці сіл не хапаець для цяжкае працы,
Прадаў мо' апошнюю кароўку?

Я веру, мой брацэ, што цяжка змагацца
З нядоляй ліхою на сьвеце,
Што пот-ты крывавы ліеш ў цяжкай працы,
А дома німа чаго есьці.

Вось дзеткі ўміраюць ад голаду ў хаце,
І мерзнуць ад страшнае сьцюжы,
А там вось гуляюць паны ў палацы,
Ці-ж гэта ня крыўда мой дружа?

Вось старасьць падходзе і зьбіўся ўжо з сілы,
Рука мазалямі пакрыта,
І мусіш сыйсьці без пары ў магілу,
Бо дзьверы да шчасьця закрыты.

Калі-ж дзе заробіш капейку якую
Глядзіш—заплаціць трэ' налогі,
За вузкую ніўку, за хатку благую
І ўзноў ты застаўся ўбогі.

Калі-ж заплаціць у свой час не ўдалося,
То возьмуць апошнюю кароўку
І сам апынешся за „бунт“ у вастрозе,
Ну проста хоць лезь у вяроўку.

Вось цяжка над нашым зьбыткуюцца братам
Ад веку да веку тыраны,
Ды досыць панаваць ужо будзе катам,
Бо рвуцца няволі кайданы!

Дык досыць хай будзе, мой брацэ, ўздыханьня,
Бо ўсходзе ўжо сонца свабоды,
Наступіць і нашага дзень панаваньня
Бо сіла у нас, у народзе!

Віцюк Сталяронак.

Вільня 1920 г.

---

## Беларуская вучнеўская моладзь, шануймо родную мову.

(Голас гімназіста.)

У першым № „Маладога Жыцьця“ была памечана стацьця „Шануймо родную мову“. Аўтор гэтае заметкі заклікае беларускую моладзь наогул, шанаваць сваю мову. Мне-б асабліва хацелася зьвярнуцца з такім клічам спэцыяльна да вучнёўскай беларускай моладзі старшых хлясаў Вілен. Бел. Гімназіі.

Наша гімназія мае на мэце выгадаваць з нас вучняў, беларускіх грамадзян, але сама, знаходзячысь ў цяжкіх варунках істнаваньня, ня раз пападае пад крытыку. Раз-по-раз называюць яе гімназіей расейска-жыдоўска і інш. Калі так, дык ёсьць відаць прычыны на так сьмелую яе зьняцагу. Першая прычына: выкладаньне некаторых прадметаў ў старшых клясах па-расейску. Другое, гэта слабое знаёмства вучняў тых самых клясаў з беларускай мовай. Дзеля першай прычыны, ня можна было-б так сьмела зьневажыць гімназію, з прычыны часовай адсутнасьці падручнікаў у беларускай мове. Значацца грае вялізарную роль тут другая вышэй азначаная прычына. Адпавядальнасьць, за большасьць скіраваных процаў нашай гімназіі вымыслаў, паносімо мы вучні самі.

Вякі цяжкай няволі пакінулі нам, дагэтуль яшчэ не заацерты, сьлед вычураньня ўсяго свайго і замену яго чужым, быццам лепшым, прыгажэйшым. Мы павінны гэты пагляд зламаць і з карэньнем вырваць, бо йнакш пустым зыкам быў-бы наш кліч „наперад“. Не праводзячы гэтага слова у чын, мы астанемся тэй „бляхай“ евангелічнай, што моцна звоніць, але рэхам не адклікаецца.

Вучні Беларусы!

Уступаючы ў рэдкія яшчэ рады маладых беларускіх змаганьнікаў, за сьвятую ідэю найшырэйшага, найхутчэйшага адраджэньня свайго народу,

зразумеймо нашае высокае прызваньне. Мы ідзем адраджаць свой народ, дык мусімо насамперш адрадзіцца самі. Перастаньмо быць дзяцьмі, што гавораць адно, а робяць другое. На словах кожны з нас, сябры, згаджаецца працаваць на адраджэньне, дык няхай ня будзе гэта пустым гукам. Сьмела возьмемся за працу, бо за нас ніхто яе ня зробіць. Пачынаймо-ж з фундамэнту. Скажымо сабе раз урэшце, але без запынак, што мы беларусы. Скажам гэта сьмела адкрыта і громка на цэлы сьвет. Хай слова беларускае грыміць сярод нас рэхам нястрыманым і хай грыміць так зычна, так магутна, каб дасягала ўсіх кутоў бацькаўшчыны і разбудзіла ад доўгага сну ўсіх, а асабліва нашых равесьнікаў. Вучні Беларусы! Пазнавайма роднае слова і шануймо яго!

Гэтым паложымо канец ўсякай няслушнай супроць нас крытыцы і наднясём узвыж патаптанае імя нашай Гімназіі.

М. Іль—ч.

# Лятуценьні.

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
Бачу я край той, гдзе мора плюскоча
Бачу я фарбы паўдня...
Бачу я мора пахнючае кветак,
Бэлыя дрэвы... прыгожа ўсё гэтак
У ласках гарачага дня..
Бачу нябесныя сінія далі,
Бачу вузоры, што ночы саткалі
З буйных палудзенных зор...
Гэта—краіна, дзе я нарадзілась,
Гэта—ўсё тое, чаму я маялась,
З чым я вяла разгавор...
Толькі чаму-ж маё сэрца ня йрвецца
У тую краіну, чаму яно б'ецца
Ціха, спакойна саўсім?..
Мусіць, чужыя паўдзённыя чары,
Новы абраз той, тускнеючы, стары
Выціснуў ў сэрцы маім...
Нашае сіняе бледнае неба,
Нашы палоскі нясьпелага хлеба
Пэўна, што сэрцу радней.
Нашы маркотныя сінія ночкі,
Нашы бярозкі, рабіны, дубочкі
Мне за ўсе чары мілей.
Ці мне заменіць блакітнае мора,
Ці мне заменяць высокія горы,
Сонца чужое паўдня!
Нашае бледнае сонца ціхое
Мілае хвораму сэрцу вясною,
Мілае мне без канца?
Не, бо ля сіняга, сьветлага мора
Вечна аб шчасьці ідуць разгаворы,
Вечна там сонца гарыць,
Бо там бяз працы, а родзяць гарняты,
Бо там чужое нам вечнае сьвята,
Бо...там і сэрца маўчыць...
А... тут у нас па гайках, пералесках
Толькі цяпер зацьвітаюць пралескі,
Толькі падходзіць вясна.
Тут пасьля гора, жыцьця шлях сьвятлее,
Тут у душы расьцьвітаюць надзеі,
Тут і ў сэрцы вясна!

Натальля Арсеньнева.

# Крыху аб спорце.

(Голас вучня І. В. Б. Г.)

За тры гады свайго істнаваньня, І-ая Віленская Белар. Гімназія, апрача духоўнага разьвіцьця, мала дала ў галіне разьвіцьця фізычнага. Прычынай гэтаму ёсьць цяжкія матэрыяльныя варункі, не пазваляючыя разьвіцца гэтай справе. У першай палове гэтага 1920-21 вучэбнага году, пасярод вучняў падыймалася пытаньне аб арганізацыі спортыўнага кружка. Праэкт гэты быў пададзены вучыцелю гімнастыкі, які абяцаў зрабіць ўсё магчымае ў гэтым кірунку. Справа гэтая аднак хутка запала, дзеля пасыўнага да яе аднашэньня. Кепска гэта, але нічога ня зробіш. Цяпер, калі нашая вучнёўская меставая моладзь, з наступленьнем вясны, будзе праводзіць вольны час на прагулкі, па гыльных садох, вузкіх, брыдкіх вуліцах, — ці ня лепей было-б падумаць, каб дружна зарганізавацца ды рабіць экскурсіі за места, якія-б умацоўвалі нас над кожным ўзглядам.

Варта мець на ўвазе, што ў нашым распараджэньні можа быць гімназычны пляц, які быў-бы вельмі карысным ў спартыўнай справе.

Усё можна наладзіць, трэба толькі мець крыху добрай волі.

З жалем прыходзіцца сьцьвердзіць, што моладзь наша мала заінтэрасавана ў гэтым, між-тым як гэтае пытаньне вельмі важнае і мы павінны ўздуваць кожную іскарку ў гэтым напрамку, каб выйсьці ў сьвет моцнымі як духова, так і фізычна. Усё можна...

Больш ініцыятывы!

М. Іль—ч.

# Літэратурны аддзел.

## „ЗАЛАТЫ ВЕК“.

Даўно гэта было. Бог стварыў сьвет і аддаваў ад дзялоў сваіх, а на зямельцы, ім створанай, пачалося жыцьцё. Усяго даў Бог людзём, каб шчасьце ведалі яны: і сонца залатое, гарачае, й неба сьветлае, ласкавае, й зямліцу сакавую, хлебародную, й рэкі глыбокія, мнагаводныя, й лясы густыя, дрымучыя...

Аднаго ня даў Бог: зямлі — дажджу, а людзям—сьлез...

Вечнае шчасьце пачалося на зямлі. У небе сонца гарэла залатым шарам, збожжа высокае па зямлі хваляй залатою разьбягалася, рэкі й вазёры, сонца залатое адбіваючы, самі расплаўленым золатам здаваліся. Золата, золата й золата...

„Залатым векам“ людзі гэтую пару празвалі...

Зьмяляліся й людзі. Ні клопатаў, ні мучэньняў ня ведалі яны. Як дзеці, жылі наіўнаю верай у заўтрашні дзень. Сьмех, песьні вясёлыя, разам з ветрыкам-жэўжыкам, каціліся па ўсяму абшару зямлі маладой, Богам прадвечным нядаўна створанай.

Песьні, песьні й песьні... „Шчасьлівым векам“ людзі гэтую пару празвалі...

Але з кожным днём гарачэйшым рабілася сонца. Слабнуць, хварэць пачала зямелька. Перасохлі рэкі

й вазёры. Збожжа залатое бязсільна каласы нустыя да зямлі растрэскаўшайся пахіліла...

Спаліла зямельку вечнае сонца. І людзі нешта смуціцца пачалі. Сэрцы іх бы каменныя зрабіліся ў грудзёх, ад вечнай вясёласьці. Часам рвалася душа, чагосьці новага жадаючы, рвалася, дрыжэла... і толькі сьмяялася...

Ссушыла людзей вечнае шчасьце. Цяжка стала жыць на зямлі... І пайшлі тады людзі да Бога свайго й палі прад прастолам Ягоным на калены: „Цяжка жыць нам, Божа", казалі яны. „Абрыдла нам вечнае сонца, вечнае радасьць. Патрэскалася наша зямліца хлебародная й душы нашы спакойныя журыцца, йрвацца пачалі...

Памажы нам Божа"...

Так казалі людзі, а Бог слухаў іх і вусны яго шапталі: „Ідзеце з мірам, будзе вам па словах вашых"...

На другі дзень паслаў Бог зямлі дождж, а людзём—сьлёзы.

Скончыўся „Залаты век"...

— Н. —

# Раніцой.

Выйду ў гай зялёны ранкам,
Птушкі там кругом сьпяваюць,
Кветкі сінія й чырвоны
Мне галоўкай заківаюць.
 Сяду я пад клён зялёны,
 Дудку я вазьму у рукі—
 Гай вясёленькі прыціхне
 І пабягуць вясёлы гукі.
Як учуе гэта граньне
Ганна мілая ў садочку,
Будзе рваць чырвоны кветкі
У невялічкія пучочкі.
 І нарваўшы многа кветак,
 Пойдзе, сядзе каля ганку
 І спляце вянок чырвоны
 Чарнабрываму каханку.
Я-ж з-пад куста, з-пад каліны
Загуду гучней у дудку,
Раскажу я гэтым граньнем
Я люблю сваю Ганютку.
 Дудка плача і галосіць,
 Дудка стогне і сьмяецца.
 Усё раўно, як птушка ў клетцы
 Сэрца ў грудзёх б'ецца рвецца!
Ганна, мілая галубка,
Ці ты чуеш гэта граньне?
Ці у сэрцы аддаюцца
Гэты гукі спадзяваньня?
 Ты прыйдзі, маё каханьне,
 Тут, на гэтай сенажаці,
 Будзем птушак сьпевы слухаць
 І кветкі ў вянок зьбіраці.
Дудка плача і галосіць
Дудка просіцца, злуецца,
Вунь... бяжыць мая Ганютка
Аж каса на ветры ўецца.
 Ужо прыйшла, глядзіць у вочы,
 Абыймае... ўсё сьмяецца,
 У гаю вяселым, аха*)
 З пацалункаў раздаецца.

Юзік Хрышчановіч.

*) рэха.

# Няшчасны дзень.

## I.

Сягоньня Ганулязноў спозьнілася, каб ісьці ў гімназію і цяпер хапалася й хутка бегла па вуліцы. Раніца была праўдзіва-вясеньняя, нейкая сьветлая, цёплая... Уеюды было мокра, па вуліцы беглі ручайнкі мутнай вадзіцы і ў іх адбівалася сіняе неба; так вясёла стаялі старыя, ўжо абсошыя дрэвы, аблітыя залатымі косамі сонейка, а маленькія, шэрыя птушачкі чырыкалі й скакалі па мокрым даху высокага дома. Але Ганулька не заўважала ўсяго гэтага; невясёла йшла яна па вуліцы. Учора, як толькі яна прыйшла з гімназіі, адразу села чытаць „Фаўста" і так ім зачыталася, што толькі калі прабіла дзесятая, ўспомніла аб лекцыях. Як ня было ёй прыкра, а прыйшлося пакінуць „Фаўста" і ўзяцца перш-на-перш за беларускія прыклады, якіх шмат трэба было пісаць. Але пасьля такой паэзіі, як сцэна пабачаньня Грэтхен з Фаўстам у турме, калі ў Ганулькі ў вушох яшчэ быццам зьвінеў моцны голас з неба „ist gerettet", што можна было напісаць добрага на „давальны" або „родны" склоны слава „локаць?" Прадумаўшы дарма цэлых поўгадзіны, Гануля са злосьцю пачала пісаць такія прыклады як: „гэтаму локцю шэсьцьдзесят гадоў" або „у майго бацькі няма локцяў". Усе ў дому даўно ўжо спалі, калі яна ў канцы скончыла і загасіўшы лямпу пайшла спаць.

Але доўга яшчэ не магла яна заснуць; перад вачмі праносіліся адна за аднэй прыгожыя, захопліваючыя сцэны з Фауста, Грэтхен, Мэфістофэль... А лекцыі так і засталіся ня зробленымі.

## II.

Часта білася сэрца Ганулькі, калі яна бегла па калідоры. Так няпрыемна было ёй, што яна зноў спозьнілася: зноў будзе нездаволены клясны кіраўнік, зноў будзе ён казаці, як заўсёды, што быццам, яна толькі так прыходзіць у гімназію, каб пасьмяяцца ці пажартаваць" і „проста ну мейсца толькі займае".

Зьявілася навет думка зусім пайсьці да хаты, але не хацелася праміпаць аднэй лекцыі, па каторай яна сягоньня зьбіралася адказываць і болей яе ня вучыцца да конца трэці... Доўга не рашалася Ганначка адчыніць дзьверы. Але што-ж зробіш?—прыйшлося ўвайсьці ў клясу. Адразу ўсе вочы зьвярнуліся на яе, а клясны кіраўнік падняўся з мейсца, каб пачаці сваё „настаўленьне".

## III.

Трэцяя лекцыя была „лацінская мова." Кляса гудзела і шумела. Усе громка сьмяяліся і крычэлі, але Ганначка сумна сядзела на сваёй лаўцы, ўспамінаючы усё, што здарылася з ёй на лекцыі нямецкае мовы. Перш-на-перш яна забылася прынесьці нямецкі сшытэк, а потым седзячы задумалася глыбока-глыбока, як гэта часта з ёй бывала. Раптам вучыцелька ў яе запыталася. Яна сягоньня ня добра ведала заданае апавяданьне, але ўсё-ж неяк расказала да конца. Калі яна адказывала, яе суседка зьнячэўку квігу разгарнула і вучыцельцы здалося, што Ганулька чытала па кніжцы, і хоць яна Ганначцы нічога не сказала, а потым, запытаўшыся ў яе аб гэтай справе, сказала навет, што верыць ёй,—але Ганначка чула, што вучыцелька ня верыць і гэта было ёй дужа прыкра і няпрыемна! Але раптам пачула яна сваё прозь-

вішча і ўстала. Усе неяк змоўклі; маўчала і Ганначка, ня ведаючы чаго ад яе хочаць. „Стаўлю Вам адзінку за няўвагу“,—зусім нечакана для яе сказаў лацініст і ўзяў абсадку. Ганулля села, чуць устрымліваючыся ад сьлёз, на месца, а ў галаве яе праносілася думка: на вошта, на вошта ўсё гэта?

IV.

Шум і крык хвалей нясьліся па клясе. Вучні й вучаніцы са сьмехам і жартамі зьбіралі свае кнігі. Хлопцы кідаліся крэйдай, крычэлі й скакалі. Але кляса пакрысе пусьцела. Хутка засталася там адна толькі Ганначка. Яна сядзела прытуліўшыся да вакна й глядзела ўніз. Успамінала яна ўвесь дзень з самай раніцы: спазьненьне, абяцаньне паставіць яе ў вучыцельскую пад гадзіньнік, за падказы па хіміі, потым, здарэньне з кнігай, адзінка. Вучыцель беларускае мовы застаўся нездаволены яе прыкладамі і сказаў, бяручы яе сшыток: „Я ўжо не кажу, што вашыя прыклады дрэнныя, гледзючы з боку зьместу, ці тэорыі славеснасьці, але і з боку граматыкі: ніводнай коскі няма!“... Прыкра зрабілася Ганульцы і яна ўжо тут ня стрымалася і горка, горка расплакалася.

X...у...z.

19 18/III 21 г.

# Ізноу у хаце.

Апошняя лекцыя цягнецца нязвычайна доўга. „Хутчэй-бы званок,“ думаець Васіль, гімназіст III кл., ня слухаючы аднатоннай гутаркі вучыцелькі-немкі, якая пераводзіць труднаразумелую стацьцю. Ён увесь затоплен ў свае думкі аб тым, як ён выйшаўшы з мураваных сьценаў гімназычнага будынку, стане вольным ад пастаяннага нагляду наглядчыка. Думае таксама аб сваіх бацькох, якія чакаюць яго пасьля чатырох месячнай разлукі. Уваччу стаіць паездка дамоў па чыгунцы, сустрэча з бацькамі, якія з цёплаю радасьцю прыймаюць яго. І здаецца яму, што аддаў-бы ён ўсё, каб толькі не зьняважаць сваіх дарагіх бацькоў.

„Дзын-дзын-дзын...“ раздаецца званок і прарывае думкі Васіля. Кляса напаўняецца шумам, крыкамі і пяяньнем вучняў равесьнікаў.—„Каб толькі не спазьніцца на чыгунку“—мармоча Васіль, зьбіраючыся ў дарогу. «Але ўсё роўна да палудня дырэктар не адпусьціць», мільгнула ў яго думцы і ён крыху супакоіваецца. Пасьля палудня цэлая „армія“ гімназістаў з кошыкамі высыпалася на вуліцу і абчапіла вагон конкі, толькі што адпраўляўшайся на станцыю.

Селі. Праз вакно відаць было як звошчыкі сьпяшаючыся, едуць на станцыю з багажом, што яшчэ больш не дае супакою малачым пасажырам. Прыехаўшы на станцыю яны засталі цягнік хутка адходзячым і толькі дзякуючы помачы насільшчыкаў, здужалі нашы пасажыры ўбіцца ў вагон. Радасьці Васіля ніхто ня мог-бы зразумець. Тут няма ўжо больш пагладаў наглядчыка, ані свайго бацькі, які заўсёды яго праводзіў да мейсца. Вясёлы гоман вучнёўскай моладзі прымушаў зварочываць на сябе ўвагу пастаронных пасажыраў, якія, бачучы вясёлы настрой дзяцей, радаваліся разам з імі. У вясёлай гутарцы ня ўгледзілі і часу калі трэба было Васілю пакінуць частку сваіх сябрбў, а самому зьлязаць. Ужо і кандуктар пачаў адбіраць білеты, кажучы, што цераз тры мінуты будзе астаноўка. Васіль зусім згубіўся: ён пачаў разьвітывацца з сябрамі, абяцаючы на сьвята да іх пісаць лісты, ўмовіўшыся, каб і яны яму пісалі.

Вось замігалі нявыразныя ачартаньні правінцыяльнага места. Цягнік звальняе пакрысе ход і хутка зусім застанаўліваецца. На пляцформе стаіць гурба народу, сярод каторай Васіль распазнае і свайго бацьку.

„Як, гэта ты, тата!“—ускрыківаець Васіль і кідаецца, па вылазцы з цягніка, на бацькаву шыю. — Цягнік адходзіць і Васіль, дастаўшы з кішаня хустку, махае сваім таварышом датуль, пакуль цягнік не пачаў хавацца з вачэй. Бацька, тымчасам наладжывае сані, садзіць гасьця і яны ўжо едуць дамоў па добра знаёмай дарозе. Вёрсты астаюцца ў тыле і праз некаторы час паказываецца будынак хаты Васілёвага бацькі, а каля хаты маленькія браты і сёстры вазіняюцца на санкох. Яны пабачылі свайго брата здалёку і ймкнуць навыперадкі, насустрэчу гасьцю.

Цэлая ватага з шумам уваліваецца ў хату. Радасьцям хатніх, як і Васілёвай няма канца... Усім сабраўшымся на вячэру было вельмі вясёла з прысутнасьці ўрэшці ўсіх членаў сям'і. Васіль з жарам апавядаў аб гімназычных здарэньнях, аб вучыцялёх, вучнях і інш...

Змораны дарогаю і паражыўшы шмат трывожных хвілін, Васіль гэтага вечара доўга не сядзеў і лёгшы ў прыгатаваную пасьцель, адразу заснуў. Сьнілася яму гімназія, срогі наглядчык. Чуў Васіль званок, прымушаючы йсьці ў клясу, ускаківаў з ложка, але... кругом было ўсё роднае, з дзяцінства знаёмае...

Дзякуй Богу!—казаў Васіль і йзноў засыпаў салодкім сном.

М. Іл—ч.

1920 г. 19 II. 21.

# Як я научыуся пабеларуску.

(З успамінаў).

У пакоі ціха й паўцёмна. Вокны прыкрыты вакяніцамі, бо сьветлыя косы, ўжо вясеньняга сонейка, йрвуцца ў пакой і ражуць алвыкшыя ад сьвятла вочы. Я й мая сястра Воля ляжым хворыя: мы толькі нядаўна прыехалі з-пад бальшавікоў і ў дарозе захварэлі на гішпанку. Я ўжо дзён дзесяць як ляжу ў пасьцелі. Цяпер мне крыху палепшала: ня так баліць галава і ня морыць сон. Але мне так нудна! Калі-б былі кнігі, дык ня гледзячы на хваробу стаў-бы чытаць. Але-ж вось у тым і справа, што чытаць няма чаго.

„Натка“, пытаюся я, здаецца ўжо соты раз у маей старшай сястры— ці няма ў нас якой кніжкі пачытаць?“—„Ёсьць“, адказываe яна, але ня ведаю, ці спадабаецца табе: яна—беларуская, я лепей сама табе пачытаю“. І яна пачала.

Ціха манатонна паліліся гукі. Чытала яна аб адным студэнту Архіпу Лінкевічу, як ён ехаў увечары да хаты, да сваіх бацькоў, як убачыў ён у засыпаючым полі нейкія агні і ня ведаў, што гэта? Хто іх паліў? Але я ня слухаў... Мяне вельмі цешыла тое, што беларусы ўжо разбудзіліся, маюць сваю літэратуру... Праўда, для другіх гэта было даўно ўжо не навіной: але я да вайны быў маленькі і нічым гэткім ня цікавіўся, а потым: у Расеі мала хто казаў аб беларусах, аб беларускім

руху. І я пастанавіў бліжэй пазнаёміцца з беларускай мовай. — „Дай лепш кнігу мне, сказаў я,—я буду сам чытаць“. Атрымаўшы кнігу, я палажыў яе на падушку і пачаў чытаць... Некаторыя словы былі для мяне незразумелыя, але многія пападаліся знаёмыя, каторыя я ўжо чуў, калі мы жылі на вёсцы. Кніга мне вельмі спадабалася і я чытаў да самага вечара: мне было вельмі цікава хутчэй даведацца, што будзе далей з Архіпам Лінкевічам, ці здарацца і яму розныя страхі, калі ён будзе начаваць у новай хаце?

* * *

На другі дзень я ўжо скончыў чытаць усю сваю кнігу, а потым навет навучыўся некаторыя кавалачкі напамяць.

Так ў першы раз пазнаёміўся я з беларускай кніжкай. Скора пасьля гэтага я паступіў у Беларускую гімназію. Прыхадзілася многа вучыцца, каб дагнаць за цэлы год. Але за гэты час я шмат чаму навучыўся. Праз тры тыдні нас распусьцілі на лета і вось тады я пачаў ўжо праўдзіва вучыцца пабеларуску. На другі тыдзень пасьля роспуску, я з Воляй пайшлі ў кнігарню. Доўга выбіралі мы кнігі і ў канцы выбралі „Васількі“ і „Родныя зьявы“.

Прачытаўшы іх, мы ўзнялі другія і так сталі на некалькі разоў у тыдзень хадзіць ў кнігарню.

Гаварыць пабеларуску навучыцца было лягчэй, але пісаць? Памятую я, як, паслаўшы першы ліст да нашага вучацеля беларускае мовы, я ледзьве ня плакаў ад прыкрасьці, бо напісаў замест „д в о р“— „и м е н и е“ да яшчэ з „и“ васьмерычным. А потым, эдаецца ў трэцім лісьце, прачытаўшы ў нейкай кнізе, слова „вучыцель“ пісаў яго з „э“ (вучыцэль).

Цяпер я сам ня ведаю, як ня прыйшла нам думка купіць у кнігарні граматыку Тарашкевіча. Колькі працы паклалі мы каб хоць больш-менш праўдзіва навучыцца пісаць.

І яшчэ на біду ўсе кнігі пападаліся старыя з кепскай ортографіей. Памятую, як мы, выбіраючы аднолькавыя творы, параўноўвалі іх паміж сабою: „Родны Край“ і „Родныя Зьявы“, „Песьні жальбы“ і „Зборнікі з Нашай Нівы“. Асабліва кепска прыходзілася з гэтымі „не“ і „ня“. Адзін раз сястра знайшла ў чарнавым сшытку аднэй з сваіх таварышак—вучаніц правілы, што ў першым складзе заўсёды пішацца „я“ і што калі ў цершым складзе «я», то ў другім «я» ўжо ня пішуць. Але і тут мы ня так зразумелі. Мы ня лічылі склады ад націску, але ад пачатку слова. Трымаючыся да гэтага правіла я ўжо і пісаў да самай восені, пакуль мы не дасталі граматыку.

А колькі-ж прыемных успамінаў пакінула гэтая пара, калі мы горача вучыліся беларускай мовы! Як добра было нам усім тром сядзець у садзе, глядзець на места ў рожавым сьвятле вячэрнага сонейка і слухаць, як сястра чытала нам вершы, або апавяданьні, як сьмяяліся мы над „Вучоным быком“ Ядвігіна Ш! Як спадабаўся нам «Курган» Янкі Купалы!

Усе гэтыя вершы й творы, і косы вячэрняга сонейка, й зялёны сад, і глухі шум вялікага места там, унізе, пад гарою,—усё зьліваецца ў маёй памяці ў адзін цэлы, сьветлы абраз і робіцца прыемна—прыемна, калі ўспомніш мінулые лета.

Вучань IV-ае клясы І-ай В. Б. Г.

С. Арсеньнеў.

15. III. 21.

# Досыць...

Што зажурылася, зоранька ясная,
Што зажурылася йзноў?
Думка галоўку скавала нянасная,
Сэрцайка, можа любоў?
Можа душу крыўда,сум безадходныя,
Моцна скавалі тваю?
Жыцьцё нямілае, жыцьцё халоднае
Песьню сьняяла сваю?
Досыць, галубка мая белакрылая,
Досыць праз сьлёзы тужыць?
Хочаш ці не, мая дзяўчынка мілая,
Трэба, хоць цяжка, а жыць!
Ведаю, вабіць ўсіх праўда высокая
Роем прыгожых спадзей,
Толька, дзяўчынка мая сінявокая,
Трудна між гэтых людзей...
Хай не гняце цябе думка няшчасная,
Сьветлыя сьлёзы змахні...
Плакаць ня варта. Ах, зоранька ясная,
Досыць! Маліся й жыві!

Г. Акушчанка.

# Сьмяялася неба.

Сьмяялася неба, вітаючы першыя дзянькі вясеньнія... Легкія хмаркі ў блакіце празрыстым расплываліся й таялі. Ветрык вясеньні не даваў затрымацца ім ні над лесам, ні над ральлёю чорнаю, ні над хаткамі вясковымі, шэрымі, ў зямлю ўрослымі. Усё гнаў і гнаў іх, бяздольных, ад старонкі роднай адарваных... Але сьмяяліся хмаркі, з ветрыкам цалуючыся, сьмяяліся й плылі паволі, ахвотна туды, куды нёс ён іх, безклапотных... Сьмяялася й сонца, ласкаючы зямельку немую, пасьля халадоў зімовых ледзьве аджыўшую, ўваскрослую... Расправляючы галінкі абтаяўшыя, лес шумеў. Макаўкі бяроз танкаствольных і хвоек панурых, што здавалася, вечна аб сьмерці, аб магільным спакою думалі, да сонца цягнуліся... Груганы ды крумкачы, як сажа горныя, па ральлі, нядаўна з-пад сьнегу паказаўшайся, паважна прахаджываліся... Лужыны празрыстыя, неба ў сабе адбіваючы, ўздоўж дарогі заляглі. Вецер налятаў часам і люстэрка іх рабізной дробнай пакрываў. Вясна з кожнага кавалачка зямлі абсыхаючай, з кожнага кусточка прыдарожнага, з кожнай хмаркі зямчужнай, як пёрка лёгкай, глядзела.

Сьмяялася ўсё, вясну прыгожую вітаючы... А ў вёсцы, ў хатцы нізенькай, цёмнай, ля якой бярозкі ды рабінкі аб вясновых чарах шапталіся, у хатцы—чалавек канаў. Сьвечка тоненькая васковая ў галовах у яго нясьмела, зорачкай жоўценькай, мігцела. Кажух цяжкі, цела яго потам абліванае пакрываючы, дыхаць не даваў... Напружана твар васковы, хваробай асушаны, глядзеў. Вочы, ў адно месца устаўленыя, здавалася, Бога і анёлаў белакрылых у небе бачылі, бо як зоркі паўночныя таёмным, незямным блескам сьвяціліся... Плакала жонка ягоная пры печы стоючы плакала дачка, прычытаючы, сьлёзы буйныя,рукавом кашулі вышываной, выціраючы. Дзеці большыя на печы, бы авечкі, зьбіліся, плакалі... А маленькія да маткі туліліся, спуджанымі вялікімі вачыма ў куток, дзе татка канаў, пазіралі. Сабраўшыяся бабы гутарку сваю парвалі манатонную, адвечную, а мужчыны таксама маўчалі, галовы на грудзі паспускаўшы.

Дзьверы разчыненыя сталі. Суседзі ды су-

седкі клапатлівыя ў хату заглядалі і каля парогу шапталіся... Стагнаў хворы, вусны ссохшыя кусаючы, вочы ў даль таемную ўставіўшы. Сьмертухна, яму адкаму бачаная, над ім, хваробай цяжкой паламаным, стаяла...

Канаў чалавек, а за вакнам вясна сьмяялася, зямельку немую, пасьля халадаў зімовых ледзьве аджыўшую, цалуючы...

—Н.—

# ХРОНІКА.

**Ад рэдакцыі.** Рэдакцыя і адміністрацыя нашае часосі „М. Ж." перанесена з Віленскай 12, на Вострабрамскую 9 і адчынена штодзень, апрача дзён сьвяточных, ад 3 да 4 гадз. п. п.

**Сьвяткаваньне трохлецьця абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.**

У пятніцу 25 сакавіка, усе Віленскія беларусы сьвяткавалі трохлецьце абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Дзеля таго, што дзень павыжшы выпаў ў Вялікую (каталіцкую) Пятніцу, шырэйшае сьвяткаваньне было адложаны на аўторак 29 сакавіка. Сьвяткавалі ў памяшканьні Беларускага Клюбу (Біскупская 12). Сіламі беларускай моладзі, пры вучасьці ведамага Вільні артыста п. Аляхновіча, было пастаўлена на сцэне „Бутрым Няміра", п'еса ў 2-х актах Ф. Аляхновіча.

**З жыцьця моладзі.** Віленская беларуская моладзь арганізавалася ў „Гурток Беларускай Моладзі ў Вільні". Статут апрацаваны і пададзены на зацьверджаньне. Бліжэйшыя інформацыі можна мець у рэдакцыі „Маладога Жыцьця", ў гадзінах урадаваньня.

**Беларускі спэктакль.** Сягоньня 7 красавіка, ў памяшканьні салі 1-ае Віленскае Беларускае гімназіі (Вострабрамская 9), вучнялі гэтае-ж гімназіі, пад кіраўніцтвам і пры вучасьці ведамага артыста п. Аляхновіча, ладзіцца спэктакль-вечар. На сцэне „Цені" драма ў 3-х актах Фр. Аляхновіча. Пасьля танцы. Буфэт. Пачатак а 7 гадзіне ўвечары.

# Крышку вяселага.

## На экзамене.

На мэдычным факультэце аднаго унівэрсытэту, на экзамене, здарыўся аднойчы гэткі інцыдэнт:

Прафэсар рысуе абраз праяваў аднэй хваробы і пытае экзаменуючагася.

— Якую дозу лякарства прыпісалі-б Вы хвораму ў гэтым выпадку?

— Гарбатнюю лыжачку.

Прафэсар маўчыць. Дык студэнт адумаўшыся:

— Выбачайце, пане прафэсар! Я абмыліўся... Можна даць...

Прафэсар выймае гадзіньнік і кажа:

— Вось, ужо 20 сэкунд, як Ваш пацыент... памёр.

— А...

## У 5-ай клясе.

Вучыцель задае пытаньне цэлай клясе. Кляса маўчыць.

— Хто ведае, падыйміце рукі?

Паўза, па каторай маленькі вучань з першай лаўкі падыймае руку.

— А ну, малы?... Зрабі стыду гэтым байбаком...

А той:

— Пане вучыцель, можна выйсьці?

Выбраў С. Бэрнікер.

## Пунктуальны.

— Міхась, куды ты бяжыш?..

— На хаўтуры кляснага настаўніка: ён вельмі злуецца, калі хто спазьніцца.

## Панятлівы.

Малы Пятро—„Слухай, тата! Калі тэрмомэтр падае, дык робіцца зімна?"

— Гэтак, сынок.

— Ну дык, вось, наш тэрмомэтр паў.

— На сколькі?

— З вакна ды вобзем. Мароз будзе, ці някота?

## Практычны дохтар.

— Чаму гэта Вы зрабілі апэрацыю нашаму гаспадару?

— Ен заплаціў 1000 марок.

— Ды ня тое: я пытаюся, што ў яго было?

— Я-ж кажу, ты-ся-ча ма-рок польскіх у яго было.

## Мае практыку.

Лётчык—Вы хочаце паступіць да мяне мэханікам? Ці Вы маеце ў гэтым практыку?

— А як-жа, мэю. Летась я зваліўся з трэцяга паверху і жыў, вось.

## Паміж іншым.

Адпраўляючыхся ў 20 сталецьці на той сьвет можна падзяліць на дзьве катэгорыі:

1. Узятыя па выбару.
2. Ахвотнікі.

# Свая пошта.

**Беларускай Вайскова-Дыплёматычнай Місіі ў Эстоніі. Рэвель.** —Газэта Вам пасылаецца. Адрэс рэдакцыі перамене́н, як у № 2 „М. Ж."

**Юз. Хрышчановічу.** Працу Вашу атрымалі. Шчыра дзякуем. Пішэце больш: будзем карыстаць паводлуг фізычнай магчымасьці. Газэту пасылаем; пашырайце яе сярод сяброў.

**Усім супрацоўнікам „Малад. Жыцьця".** Дзеля таго, што матэрыялу прысланага ў гэты нумар часопісі аказалася больш, чым на два такія, як наш, нумары, — у гэтым нумары замяшчаюцца толькі тыя творы, якія былі прысланы ў больш-менш прыгодным да друку відзе. Наагул-жа рэдакцыя просіць сваіх супрацоўнікаў, перад пасыланьнем сваіх твораў у рэдакцыю, больш старанна іх апрацовываць. Пісаць трэба чытэльна, магчыма радзей і толькі на аднэй старане аркуша. Гэта аблегчыць працу рэдакцыі, а самых супрацоўнікаў прывучыць да патрэбнага ладу.

Рэдакцыя „Маладога Жыцьця" квітуе атрыманьне гэткіх ахвяр.

Ігн. Дварчанін—150 мк. п.

Ант. Луцкевіч—100 мк. п.

Друкарня Коопэр. Тавар. „ДРУК", Вострабрамская 5. Рэдактар і выдавец Аляксандр Пуська.